# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 19 (1054) ГОД XXI 9 МАЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.



**БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-76**

Хор з Гарадка — пераможца ў катэгорыі сучаснай песні.

Фота Я. Цялушэцкага.

Сядзім на кухні звычайнай вясковай хаты, у якой жывуць **Яўгенія і Лявон Юрчукі**, гаспадары з вёскі **Койлы** ў Чыжоўскай гміне. Гаспадыня паказвае фатаграфіі, якія ўжо не адзін раз глядзела цэлая вёска. І цяпер паказвае яна іх, як штосьці надзвычай важнае, каштоўнае. Відаць, што перажывае, хвалюецца...

— *А наша мама,* — паясняе яе зусім маленькая дачушка, — *сфатаграфавалася з панам Геркам. О, тут е пан Герэк, а тут наша мама...*

Сапраўды, на вялікай фатаграфіі шматлікая група пераважна маладых людзей, а сярод іх першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, таварыш **Эдвард Герэк.**



*Яўгенія Юрчук пад памятным здымкам.*

## ПАМЯТКА НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

— Вось тут лепш відаць, — падсоўвае яна мне другую фотакартачку, дзе фотарэпарцёр засняў меншую групу членаў дэлегацыі, сярод якой знаходзіцца і Яўгенія Юрчук.

— Гэтыя фатаграфіі, — гаворыць яна, — астануцца на ўсё жыццё каштоўнай памяткай у нашай сям'і.

І яна зноў узіраецца ў твары сваіх сяброў з гэтай фатаграфіі, успамінаючы незабыўныя дні VII з'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі. **Партыйная арганізацыя Беластоцкага ваяводства даверыла ёй мандат дэлегата на гэты агульнадзяржаўны партыйны форум.**

— Якія ўражанні асталіся ў вас ад удзелу ў працы VII з'езду нашай партыі? — пытаю яе.

— Цудоўныя! Незабыўныя! — усклікае яна. — Гэта цяжка і расказаць у словах... Уявіце сабе, столькі знакамітасцей амаль з усяго свету, столькі выдатных партыйных дзеячоў, якіх дагэтуль бачыла я выключна на фатаграфіях у газетах і па тэлевізары... Можна было падыйсці да іх, падаць руку, пагаварыць... Леаніда Брэжнева, між іншым, бачыла, калі знаёміўся з выстаўкай дасягненняў нашай гаспадаркі... Вось так, як бы рукой падаць, была я побач з ім... А з таварышам Геркам — дык сядзела і гаварыла так, як цяпер з вамі...

— Ну, і якім чалавекам паказаўся вам правадыр нашай партыі?

— Такі, ведаеце, нейкі блізкі, просты, непасрэдны, такі с в о й чалавек... Падпісваў мандаты, значыць, на памятку... Зараз уфармавалася даўжэзная чарга. Кожны з дэлегатаў хацеў завезці дадому

(Працяг на стар. 4)

*Гэты голас аднатоўваем з асаблівай прыемнасцю. І не толькі таму, што з'яўляецца ён адгалоссем нашай ніваўскай акцыі, якую 8 год таму назад правялі мы сярод польскіх пісьменнікаў, ураджэнцаў Беларусі, але, перш за ўсё, з увагі на яго выключнае гучанне. Тадэуш Канвіцкі — выдатны майстар сучаснай польскай прозы — у сваёй апошняй кніжцы*) выказвае вялікую любоў да Беларусі. Яна, як лейтматыў, праходзіць праз увесь твор. Мы выбралі толькі найбольш згушчаны ўрывак. Як дакумент нязвыклай вартасці, друкуем у арыгінале.*

## TADEUSZ KONWICKI
# Moje oczy są pełne Białorusi

*Kilka lat temu zwrócił się do mnie z ankietowymi pytaniami białoruski periodyk „Niwa" wychodzący w Białymstoku. Bez złej intencji, z całą dobrą wolą, ale z niewiarygodnej gnuśności nie odpowiedziałem na te pytania. Ucieszyłem się tą ankietą, bardzo mi ona konweniowała, szykowałem papier i pióro, zbierałem się tydzień i drugi, lecz w końcu nic nie napisałem. A pytania brzmiały, o ile dobrze pamiętam: jaki wpływ na moje pisanie wywarła Białoruś i co zawdzięczam Białorusi.*

*No i teraz nagle pośrodku zimy, dziwnej zimy przemieszanej z wiosną albo z jesienią, zimy złej dla starych i dla sercowców, zimy-chałtury, zimy-braku, zimy-odrzutu eksportowego, teraz raptem zachciało mi się odpowiedzieć na tę ankietę, o której już pewnie zapomnieli nawet jej organizatorzy.*

*Co zawdzięczam Białorusi? Zawdzięczam jej to, że do dziś nie umiem dobrze pisać po polsku, że na zawsze zbakierowała mi ucho, że swoją melodyką zagłuszyła tę piastowską, sandomierską czy kielecką intonację, której uczę się, uczę się i nigdy się już nie nauczę. Zawdzięczam jej ową nostalgię, która mnie chwyta za resztki włosów pośrodku białego dnia w Warszawie, w Paryżu czy w Manhattanie. Zawdzięczam jej ten przejmujący niepokój, który mnie gdzieś gna, choć stoję w miejscu, dokądś gna, dokąd boję się dotrzeć, ale w końcu muszę dotrzeć.*

*Białoruś, Białoruś. Dlaczego nazywasz się Białoruś, jeśli nie masz w sobie bieli, jeśli bielą twoją są rude rżyska jesienne, jeśli bielą twoją są postawy szarego płótna wyłożone na słońcu, jeśli bielą twoją jest gorący pot umęczonych ludzi. Powinnaś się nazywać Dobroruś, powinnaś się nazywać Dobrą Ziemią Dobrych Ludzi.*

*Moje oczy są pełne Białorusi. Patrzę na Prowansję i widzę pagórki spod Oszmiany. Patrzę na Dunaj i widzę Niemen, widzę zamglony łagodnym smutkiem drugi brzeg Niemna. Patrzę na autostradę w Los Angeles i widzę sannę pod Gudogajami, słyszę łomot pacyn śniegu, czuję ostry zapach końskiego potu, przeczuwam czerwone okienko samotnej chaty pod pagórem bogatego śniegu, jedynego i prawdziwego bogactwa tej ziemi.*

*Po jakiemu ja w dzieciństwie mówiłem? Czy „po prostemu", czy „po miastowemu"? Czy więcej słów, bajek, pieśni słyszałem białoruskich, czy polskich? Ile razy i kiedy przekraczałem tę niedostrzegalną granicę między białoruskością i polskością?*

*Nie wryłaś się w ludzką pamięć, Białorusi. Nie odbierałaś innym wolności, nie rabowałaś cudzej ziemi, nie mordowałaś ludzi zza sąsiedzkiej miedzy. Miałaś dla obcych szacunek i gościnny kołacz, miałaś dla rabusiów ostatnią krowę i ostatnią kromkę żytniego chleba ze znakiem krzyża, miałaś dla nieszczęśliwych krwawiące serce i biedne nie pieszczone życie do oddania. Dlatego mało kto ciebie pamięta.*

*Mnie też pod koniec wojny uratowano życie w białoruskim domu. Prości ludzie, nie młodzi i nie starzy, zwykli*

(Працяг на стар. 2)



VIII З'ЕЗД БГКТ — БАНК ДУМАК

## ДЭМАГРАФІЧНЫЯ ПРАЦЭСЫ І БГКТ

На працягу дваццаці год існавання БГКТ прыкметна змяніліся ўмовы яго дзейнасці. Раней пачатковыя школы былі перапоўнены дзецьмі, вёскі — моладдзю. Усе яны чакалі культурнаасветных мерапрыемстваў, а найчасцей самі іх арганізоўвалі. За імі ішлі дарослыя, а нават старэчы. Мы заўсёды падкрэслівалі, што база нашай дзейнасці — гэта вёска. Зараз трэба дадаць — і горад, а калі ўжо вёска, дык — і моладзь сярэдніх і вышэйшых школ. У міжчасе змяніўся і далей змяняецца на некарысць працы БГКТ узроставы склад насельніцтва. Яно проста старэе, а, як вядома, перманентнае старэнне — гэта павольнае адміранне. Нецікавы гэта працэс, яго зрадзіла празмерная міграцыя ў гарады. Так склаліся гістарычныя ўмовы, што мясцовае беларускае насельніцтва ўпершыню ў гады народнай улады атрымала магчымасць выхаду з перанаселеных вёсак. Найбольш рэвалюцыйныя адзінкі адразу пасля вызвалення пайшлі будаваць народную ўладу, а за імі, пачынаючы недзе з пяцідзесятых гадоў, стала адыходзіць і працаздольная вясковая моладзь. Працэс гэты нарастаў з кожным годам. За дзесяцігоддзе 1960-1970 г.г. у вёсках былых Бельскага, Беластоцкага, Гайнаўскага, Дуброўскага, Сакольскага і Сямяціцкага паветаў аднатаваны ўбытак каля 22 тысяч асоб, нават пасля далічэння нізкага натуральнага прыросту. Увогуле, характэрнай дэмаграфічнай рысай для спамянутых паветаў стаў надта малы натуральны прырост насельніцтва і адмоўнае міграцыйнае сальда.

Рэгіянальныя статыстыкі ствараюць магчымасць правесці аналіз гэтых працэсаў. З яго вынікае, што далей вясковае насельніцтва будзе старэць, а яго лік паменшыцца. З гэтымі фактамі трэба будзе ўсё больш лічыцца ў дзейнасці БГКТ. Людзі пажылыя могуць быць удзячнымі кансументамі культуры, пры добрай арганізацыі яны прыдуць на фільм, фэстын, купяць беларускі каляндар (калі ён будзе іх цікавіць!), але не будуць, з невялікімі выключэннямі (Гарадок, Бельск, Белавежа), стваральнікамі культуры. Праўдападобна, у бліжэйшыя гады нельга будзе лічыць на павелічэнне ліку вясковых аматарскіх калектываў, членаў БГКТ, ці нават на развіццё грамадскіх чыноў, а можна лічыць на ўданыя сустрэчы з праўнікамі, сацабеспячэнцамі ці гісторыкамі.

Трэба было б, бадай, падумаць над новымі формамі працы з настаўнікамі і вучнямі, а таксама з гарадской беларускай інтэлігенцыяй і рабочымі — выхадцамі з вёсак.

(Працяг на стар. 4)

# MOJE OCZY SĄ PEŁNE BIAŁORUSI

(Працяг са стар. 1)

*chłopi sczerniali od ciężkiej pracy, na pewno analfabeci, jeśli idzie o piśmienność, i profesorowie, jeśli idzie o znajomość psychologii i losów człowieczych, ci prości ludzie uratowali mnie, osiemnastolatkowi, życie, podarowali na złe i dobre te wszystkie lata, które z mozołem spychałem za siebie. Uchronili mnie może tylko przed śmiercią, a może przed wieloletnią bydlęcą wegetacją, przed takim wariantem losu, o którym ze zgrozą myślę w bezsenne noce. I boleśnie żałuję, że nie mogę opisać tego krótkiego incydentu, którego byli cudotwórcami.*

*Kiedy przypomnę białoruskie słowo, kiedy zawieje wiatr z północnego wschodu, kiedy zobaczę płócienną koszulę ze smutnym haftem, kiedy usłyszę krzyk bólu bez skargi, zawsze uderzy mi żywiej serce, zawsze wyskoczy skądś łagodna tęsknota, zawsze podpłynie raptowny chłód nieokreślonych wyrzutów sumienia, poczucie współwiny i zawstydzenia.*

*Białorusi, Białorusi szarozielona z ogromnym niebem nad płową głową, za dobra, za łagodna, za szlachetna jesteś na nasze czasy.*

*) Tadeusz Konwicki: Kalendarz i klepsydra, Czytelnik 1976, s. 392, 40 zł.

# ХРОНІКА

■ У Райках гурток БГКТ сваім старшынёю выбраў Зою Філімонюк, сакратаром — Славаміра Семянюка і скарбнікам Крыстыну Крынскую.

■ У Піліпках гурток БГКТ узначаліла Зінаіда Флёрка, сакратаром з'яўляецца Лідзія Панасюк, а скарбнікам — Лідзія Герасімюк.

■ Стыкоўскі гурток БГКТ у новае праўленне выбраў: Валянціну Шчужэўскую — старшынёю, Эльжбету Вавульскую — сакратаром, і Крыстыну Краўчук — скарбнікам. Дэлегатам на з'езд БГКТ выбраны Іван Шчужэўскі.

■ Гарадскі гурток БГКТ у Бельску пасля абмяркоўкі далейшай дзейнасці выбраў новае праўленне ў складзе: Аляксей Карпюк — старшыня, Васіль Антыпюк — намеснік старшыні, Антаніна Куна — сакратар, Анна Лазовік — скарбнік, Язэп Альшэўскі, Валянціна Андрэюк і Янка Томчык — члены праўлення. Дэлегатамі на VIII з'езд БГКТ выбраны: Валянціна Андрэюк, Васіль Антыпюк, Аляксей Карпюк, Сяргей Лукашук, Уладзімір Раеўскі і Сцяпан Трафімюк.

■ Нядаўна адбыліся справаздачна-выбарныя сходы ў Дарожках і Войшках, у гміне Юхновец. У Дарожках у склад новага праўлення ўвайшлі: Ірэна Міхальчук — старшыня, Тэрэса Чарэмчук — сакратар і Язэп Свірыдзюк — скарбнік, а ў Войшках старшынёй гуртка цяпер з'яўляецца Валянціна Гурба, сакратаром — Валянціна Сяргеюк і скарбнікам — Марыя Болтрык. Дэлегатам выбраны Іван Васілеўскі.

■ Гурткі БГКТ у Райску і Плюцічах, што ў гміне Храбалы, на сваіх справаздачна-выбарных сходах, абмеркаваўшы далейшыя напрамкі дзейнасці, выбралі новыя праўленні. У Райску: Варвара Ляшчынская — старшыня, Аліна Семянюк — сакратар, Юрка Дамброўскі — скарбнік; у Плюцічах старшыня гуртка — Валянціна Васілюк, сакратар — Мікалай Паплаўскі і скарбнік — Яўгенія Сцепанюк.

■ Нядаўна ў Дубраўках, што ў Васількоўскай гміне, адбыўся арганізацыйны сход гуртка з удзелам старшыні ГП Міколы Самоціка. На самым пачатку было выбрана праўленне гуртка ў складзе: Галіна Юроўчык — старшыня, Ядвіга Вільчэўская — сакратар, Аляксандр Юроўчык — скарбнік, Валянцін Савіцкі і Аляксандра Завадская — члены. Адначасова выбраны быў дэлегат на з'езд БГКТ. З'яўляецца ім мясцовы дзеяч з Васількова — Хведар Садоўскі. Старшыня ГП расказаў прысутным аб працы Беларускага таварыства і ўручыў прысутным членскія білеты нашай арганізацыі. Затым 16-асабовы гурток абмеркаваў і прыняў план працы да канца бягучага года.

■ Гурток БГКТ у горадзе Саколка абмеркаваў працу гуртка і прыступіў да выбараў. У новае праўленне ўвайшлі: Аляксандр Юргель — старшыня, Уладзімір Аніська — сакратар, Ірэна Андрацкая — скарбнік, Кастусь Мацько і Аляксандр Рафаловіч — члены. Аляксандр Рафаловіч выбраны дэлегатам на VIII з'езд БГКТ

(мх)




**ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ**

*Помнік загінуўшым аднавяскоўцам у калгасе імя Горкага Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці.*

## НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

# МІЖВАЕННАЕ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

На Беласточчыне міжваеннае дваццацігоддзе было перыядам бурлівай барацьбы працоўных супраць буржуазнага ладу і звесткі пра самыя яскравыя старонкі і постаці гэтага змагання знаходзім у БелСЭ.

Традыцыі барацьбы працоўных Беласточчыны супраць прыгнёту і эксплуатацыі выраcталі з дзейнасці на яе тэрыторыі арганізацыі Сацыял-дэмакратыі Каралеўства польскага і Літвы (т. 9, с. 382-3) і Гродзенскай арганізацыі РСДРП (т. IV, с. 11-2), якія не спынілі сваёй дзейнасці і ў часе захопу гэтай тэрыторыі кайзераўскай Германіяй у 1915-1918 г.г. Калі ў кастрычніку 1918 г. паўстала Камуністычная партыя Літвы і Заходняй Беларусі (т. V с. 342), як частка Рускай камуністычнай партыі (бальшавікоў), на чале якой быў У. І. Ленін, тады яна ўзначаліла рэвалюцыйны рух на гэтай тэрыторыі. Тут таксама дзейнічала Камуністычная партыя Польшчы (т. V, с. 342). Усё гэта і склала адну з прадпасылак таго, што 30 ліпеня 1920 г. у вызваленым Чырвонай Арміяй Беластоку паўстае Польскі рэвалюцыйны камітэт (т. VIII, с. 502). У яго склад уваходзілі польскія камуністы: Ю. Мархлеўскі (старшыня), Ф. Дзяржынскі, Ф. Кон, Э. Прухняк, Ю. Уншліхт. „Польскі рэвалюцыйны камітэт нацыяналізаваў прамысловасць, канфіскаваў буйную зямельную ўласнасць, арганізаваў народную міліцыю, пачаў ствараць органы рэвалюцыйнай улады на мясцах, фарміраваць Польскую Чырвоную Армію. Выдаваў газету „Goniec Czerwony". Пасля адступлення Чырвонай Арміі спыніў дзейнасць". Аднак барацьба не спынілася. Працоўныя не мірыліся з рэстаўрацыяй улады капіталістаў і памешчыкаў. Па ўсёй Заходняй Беларусі пачалі ўзнікаць партызанскія атрады. Адно з партызанскіх злучэнняў дзейнічала ў раёне Белавежскай пушчы (т. VIII, с. 276), на яго чале стаяў атаман Г. Шыманюк. Гэтае злучэнне падпарадкоўвалася Галоўнаму штабу беларускіх партызан (т. III, с. 312), які кіраваў у 1921-2 г.г. партызанскімі атрадамі і групамі ў Лідскім, Гродзенскім, Бельскім і Ваўкавыскім паветах. Яго базай была Белавежская пушча. „Партызаны палілі панскія маёнткі, грамілі дзяржаўныя ўстановы, паліцэйскія гарнізоны, змагаліся з карнымі атрадамі і экспедыцыямі". Штаб выдаваў на беларускай мове падпольны часопіс „Беларускі партызан" (т. II, с. 243). У тым жа часе Беластоцкая арганізацыя камуністычнай рабочай партыі Польшчы выдавала ў Гродне ў 1922 г. на беларускай мове газету „Вясковы пралетарый". (т. III, с. 274), у якой „пісала пра нацыянальны прыгнёт, цяжкае становішча працоўных у Заходняй Беларусі, патрабавала нацыянальнай свабоды, канфіскацыі памешчыцкіх зямель". У гэты перыяд дзейнічае тут Юзаф Крваўніцкі (т. VI, с. 112), які нарадзіўся ў 1889 г. у мястэчку Міхалова каля Беластока. Быў ён „у 1913 г. за рэвалюцыйную дзейнасць арыштаваны і высланы ў Арэнбургскую губерню. З 1917 г. у Чырвонай гвардыі, старшыня Курскага губернскага Савета рабочых дэпутатаў. У 1918 г. камандзір узвода Курскага партызанскага атрада... З 28 мая 1919 г. на партыйнай рабоце ў Беластоку. У чэрвені 1919 г. пры пераходзе цераз фронт арыштаваны польскай дэфензівай у Ваўкавыску, пасля вызвалення на падпольнай рабоце ў тыле інтэрвентаў... Адзін з заснавальнікаў арганізацыі кампартыі Польшчы ў Беластоку, Міхалове, Крынках, Гродне, Ваўкавыску і інш. З красавіка 1920 г. у Мінску, дзеяч Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі". Загінуў у студзені 1921 г.

У кастрычніку 1923 г. на Першай канферэнцыі КПЗБ (т. VIII, с. 403), якая адбылася нелегальна ў Вільні, дзевяць дэлегатаў Беластоцкага, Брэсцкага і Віленскага акруговых камітэтаў Камуністычнай рабочай партыі Польшчы ад 528 членаў партыі стварылі Камуністычную партыю Заходняй Беларусі (т. V, с. 333-7). З таго часу КПЗБ была кіруючай сілай рэвалюцыйнага і прагрэсіўнага руху рабочых і сялян на Беласточчыне. Яна ўзначальвала, між іншым, рэвалюцыйныя выступленні беластоцкіх тэкстыльшчыкаў у 1932 і 1933 г.г. рабочых дрэваапрацоўчай прамысловасці і лесараспрацовак Белавежскай пушчы і інш. Беластоцкі акруговы камітэт КПЗБ нелегальна выдаваў газету „Włókniarz Białostocki", а Белавежскі райком КПЗБ — „Лесаруб у барацьбе".

Пад кіраўніцтвам КПЗБ узнік у студзені 1924 г. Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі (т. V, с. 356-8), які разгортваў шырокую дзейнасць сярод моладзі Беласточчыны.

У шэрагах КСМЗБ і КПЗБ на Беласточчыне фармавалася асабовасць Сяргея Прытыцкага (т. VIII, с. 608-9), які быў родам з вёскі Гаркавічы на Сакольшчыне. Абаяльная постаць і самаадданая дзейнасць яго як рэвалюцыянера, а затым выдатнага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча БССР шырока вядома на Беласточчыне. Тут таксама працавалі ў падполлі такія выдатныя дзеячы камуністычнага руху, як Мікалай Арэхва (т. І., с. 498), Сяргей Анісаў (т. І, с. 345-6), Іван Малец (т. VI, с. 581), Вера Харужая (т. XI, с. 30-1), Софія Панкова (т. VIII, с. 81) і шэраг іншых. Санацыйныя ўлады жорстка распраўляліся з камуністамі і прагрэсіўнымі дзеячамі на славутых працэсах 35-і, 45-і і 133-х, якія праходзілі ў Беластоку (т. VIII, с. 574-5).

Шырокую дзейнасць на Беласточчыне разгортвала Беларуская сялянска-рабочая Грамада (т. II, с. 232), а сярод яе выдатных дзеячоў і паслоў у тагачасны сейм быў Павел Валошын (т. II,. с. 579), які паходзіў з вёскі Гаркавічы, што на Сакольшчыне.

Актыўна дзейнічалі таксама гурткі Таварыства беларускай школы (т. X, с. 192) — культурна-асветная арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі. Сярод яе дзеячоў тут найбольш вядомым быў Піліп Кізевіч — член ГП ТБШ.

Гэта толькі ў вельмі скарочанай форме прыгаданы падзеі і людзі рэвалюцыйнай барацьбы працоўных Беласточчыны ў міжваеннае дваццацігоддзе, якія знаходзім у БелСЭ.

**І. Снарскі**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 8.V.** 6.00 Tech. Rol. Wskaz. met. 6.30 Mat. 7.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o czł. Sprawy 15-lat. 9.30 Red. Szk. zap. 9.40 Pr. I prop. 9.55 Pr. dnia. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerwone, żółte, ziel. 10.10 Utwory dla moich przyj. JÓZEF PRUTKOWSKI. 11.00 Drogi do ojczyzny — film dok. 12.45 STUDIO-2. 12.55 Międzynar. Wiosna Estr. cz. I. 13.10 „Sukces" — film dok. 13.55 Duet Kubański. 13.55 Kino Amat. 14.25 Adeli i Franciszka opowieść o wojennej miłości — film. 15.15 Międzynar. Wios. Estr. cz. II. 15.35 Sport, balet i pios. 15.55 Ludzie, którzy tworzą fakty. 16.50 Co o tym myślicie. 17.35 Moja Polska. 18.05 Między nami jaskiniowcami — film. 18.35 Spektakl prawdy — film dok. 19.00 Uczymy się polskiego. 19.10 Wyst. Amb. Czech. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Spotk. z A. Bardinim. 21.25 O 6-ej wieczorem po wojnie — film fab. radz. 23.25 Właśnie leci kabarecik. 23.35 Przyjaciółki — film fab. wł.

– — –

**Niedziela 9.V.** 6.05 Tech. Rol. Mat. 6.35 Upr. rośl. 7.05 Kurs Rol. 7.40 Przyp., radz. 7.50 Now. w domu i zagr. 8.15 Bieg po zdr. 8.30 Pr. dnia. 8.35 Sport. 8.40 Antena. 9.00 TELERANEK. 10.20 **Postrach mórz** — film fab. wł-fr. 11.55 Odprawa Wart przed Grobem Niezn. Żołn. 12.40 Dzien. 13.00 Wiosna w Tatrach. 13.30 Dla dzieci. 14.05 Co kto lubi. 15.05 Los. Duż. Lot. 15.20 Refl. ob. 15.35 Zamek — film dok. 16.10 Wyścig Pokoju. 17.40 **Zwycięstwo** — film fab. pol. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Bractwo Wilków — film ser. fr. 21.25 Spotkanie z gwiazdą. 22.25 Sport.

– — –

**Poniedziałek 10.V.** 12.40 Tech. Rol. J. pol. 13.15 Mat. 13.50 Politech. Kurs przyg. Fiz. 14.25 Mat. 15.00 Dla harcerzy. 15.20 NURT. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Dzien. 16.05 Wyścig Pokoju. 17.05 Obiektyw. 17.20 Dla dzieci. 18.00 Przed potopem. 18.15 Strzelec wyborowy — film bułg. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 Teatr TV: H. Ibsen Dzika kaczka. 22.35 Dzien. 22.50 Śpiewa N. Urbankova.

– — –

**Wtorek 11.V.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 9.05 Bractwo Wilków — film ser. fr. 10.00 Dla szkół (kl. I—III) Czerwone, żółte, ziel. 11.05 (kl. VII—VIII) Wych. plast. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.25 Bot. 15.00 Pr. dla harc. 15.30 Na wielkim i małym ekr. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Dzien. 16.05 Wyścig Pokoju. 17.05 Obiektyw. 17.25 XYZ cz. II. 17.55 Stud. Tel. Mł. 18.45 Polskie dania eksportowe — rep. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.00 P. nożna: Szwajcaria—Polska. 21.45 Bunt — film ser. ang. 22.30 Interstud. 23.15 Dzien.

– — –

**Środa 12.V.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Bot. 8.15 Bunt — film ser. ang. 9.00 Dla szkół (kl. VII) Chem. Sole. 10.00 Fiz. Drgania i fale. 11.05 Hist. Konkurs hist. 12.10 Tech. Rol. J. pol. 12.45 Mat. 13.20 Politech. Kurs przyg. Fiz. cz. III i IV. 14.25 NURT. 15.00 Dla harcerzy. 15.30 Pr. dnia. 15.35 Dzien. 15.45 Obiektyw. 16.05 Wyścig Pokoju. 17.05 Los. Mał. Lot. 17.15 Dla dzieci. 17.45 Odgłosy wiosny. 18.15 Spotk. z Temidą. 18.50 Szukamy nie tylko my. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 P. nożna. Beyern Monachium—St. Etienne. 22.00 Szalona noc tchórza — film fab. wł. 23.35 Dzien.

– — –

**Czwartek 13.V.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mat. 7.25 Dziesiąty krok — film fab. radz. 9.00 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysp. obr. 10.00 (kl. VI) Hist. W Szkole Ryc. 12.00 (kl. VIII) J. pol. Wł. Broniewski. 12.30 Decyzje 15-latków. 13.05 Tech. Rol. Chem. 13.40 Hod. zwierz. 14.15 Mat. w szk. 15.00 Dla harcerzy. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.15 Poligon. 18.40 Anat. sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 Przyp., radz. 20.40 Teatr Sens. Antoni Marczyński. Strzał o świcie. 21.40 Pegaz. 22.25 Dzien. 22.40 Rec. U. Sipińskiej.

– — –

**Piatek 14.V.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Hod. zwierz. 7.40 Pustka — film fab. węg. 9.00 Dla szkół (kl. V) Geogr. M. Kopernik. 10.00 (kl. VI) Na naszych polach. 11.05 (kl. II) Nasza estrada. 12.00 (kl. VIII) Wych. ob. Polska w świecie. 12.45 Tech. Rol. Wskaz. met. 13.25 Mat. 13.55 Politech. Kurs przyg. Mat. 15.00 NURT. 15.35 Pr. dnia. 15.40 Dzien. 15.50 Obiektyw. 16.10 Wyścig Pokoju. 17.10 Dla dzieci. 17.45 Szperacze. 18.10 Giełda. 18.45 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.35 W domu — film pol. 21.15 Drogowskazy. 22.00 Cygańska miłość. 22.40 Dzien.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 7.V** — 8.45 Film fab. 12.10 Film dok. 13.30 Film fab. 17.10 Koncert Obrazcowej. 17.55 Film dok. 19.30 Panorama. 21.00 Sport.

**Sobota 8.V** — 7.30 Spektakl lalkowy. 9.00 Film fab. 10.05 Koncert. 11.05 Piosenka radz. 12.00 Hokej. 14.15 Filmy anim. 15.35 Śpiewa Rusłanowa. 16.30 Koncert. 19.30 Koncert zespołu im. Aleksandrowa.

**Niedziela 9.V** — 11.30 Film fab. 13.15 Pr. muz. 14.25 Filmy anim. 15.00 Klub film. 17.10 Koncert. 17.55 Film dok. 19.30 Koncert. 20.20 Sport.

## КІНО

**Białowieża** Słodki dom — belg. 11—12. Podwodna odyseja — kan. 13—14. Nie ma róży bez ognia — pol. 15—16.

**Czyże** Charley Varrick — USA. Kobiety, które kochałem — rum. 12—16.

**Dubicze Cerkiewne** Kochankowie roku pierwszego — czes. Śmiałość — radz. 12—16.

**Gródek** Junga z floty północnej — radz. 15—16.

**Michałowo** Człowiek w dziczy — USA. 11—12. Pułapka w delcie Dunaju — rum. 13—14. Miasto w czerni — węg. 15—16.

**Mielnik** Kasztany miłości — wł. 12. Ani słowa o futbolu — radz. 15—16.

**Milejczyce** Tydzień szaleńców — rum. 11—12. Horoskop szczęścia — czes. 13—14. Dziewczyna i auto — węg. 15—16.

**Narew** Urodziny Matyldy — pol. El Dorado — USA. 12—16.

**Narewka** Miasto niezwykłe Warszawa — pol. Żeglarz znad Dunaju — węg. 12—16.

**Nurzec** Pipi w kraju Taka-tuka. — szwed. 11—12. Niezwykłe przygody Włochów w Rosji — radz. 13—14. Jarosław Dąbrowski — pol. 15—16.

**Orla** Fraulein Doktor — jug. Jezioro starej sowy — NRD. 12—16.

**Rajsk** Dzieje grzechu — pol. Michaś przywołuje świat do porządku — RFN. 12—16.

B.Z.Graf. Zam. 1137 F-2

 



# Пакуль зашумяць сады

Яшчэ гады два — і Мілейчыцкая гміна, быццам карабель, паплыве сярод мора квітнеючых садоў. Але пакуль што глянем на сённяшняе. Па-рознаму збудаваны шлях. Ёсць і вяршыні, ёсць і даліны. Зразумела, так, як у жыцці.

У склад Мілейчыцкай гміны ўваходзіць дзевятнаццаць вёсак. Не будзем задумоўвацца над тым, ці гэта многа ці мала, бо справа не ў колькасці. Тут справа важнейшая, за якую і трэба пахваліць гмінныя ўлады. Дзякуючы іх працы і намаганням зашпіліўся апошні гузік тэлефанізацыі. Ад канца сакавіка гэтага года ўжо ў кожнай вёсцы (нават і ў тых, у якіх няма солтысаў) ёсць тэлефон. Гэта ж вялікая выгада і ўладам і жыхарам вёсак. Бываюць жа і такія здарэнні, якія патрабуюць неадкладнасці.

Але не толькі гэтым жыве гміна ў Мілейчыцах. Уступае яна на дарогу падборкі спецыялізацыі ў гаспадарчай дзейнасці. Стварае спрыяльныя ўмовы для ўзнікнення сельскагаспадарчых калектываў у паасобных вёсках. Адным з тых, што пачынаюць ставіць першыя крокі, з'яўляецца калектыў з пасёлка Паканева. У склад яго ўваходзяць чатыры гаспадары: Струсь Тадэуш, Скрыцкі Казімір, Зялеўскі Чэслаў і Свідэрскі Геранім. Вырашылі яны злучыць свае сілы і сумесна заняцца гадоўляй кароў. Цяпер рыхтуюцца распачаць будову кароўніка на пяцьдзесят штук жывёлы. З вялікай дапамогай прыйшлі ім гмінныя ўлады, перш за ўсё ў галіне забеспячэння найбольш неабходнымі машынамі.

Але не толькі гэтым можа пахваліцца гміна ў Мілейчыцах. Сярод той колькасці вёсак, якія ёй падлягаюць, ёсць невялікая вёсачка Клімковічы, у якой дваццаць тры гаспадары. Яна, бадай, што самая лепшая ў гміне. Людзі тут вельмі сур'ёзныя, гаспадарныя, яны, быццам тыя пчолы, рупліва дабіваюцца як найбольшых пладоў са сваёй працы. Займаюцца пераважна апрацоўкай зямлі, пра якую вельмі дбаюць. Добрым прыкладам гэтага з'яўляецца выкарыстоўванне мінеральных угнаенняў. Норму выканалі ў 108%. З боку кантрактацыі збожжа таксама закідаў няма. Выканана ў ста працэнтах. Да самых лепшых гаспадароў залічаюцца тут: солтыс Высоцкі Лявонцій, які, апрача апрацоўкі зямлі, спецыялізуецца ў гадоўлі букатаў, Кручанкоў Габрыель, Юркевіч Юзэф, Барташэвіч Рыгор — сакратар партыйнай арганізацыі і іншыя. Калі ўжо гаворым пра гэтую вёску, то нельга прамінуць таго, што займаецца яна таксама і гадоўляй малочных кароў. У сувязі з тым пачалі рабіць сіласы, колькасць якіх узрастае з году ў год. Калі ў 1974 г. быў толькі адзін сілас у солтыса, то ў 1975 г. ужо два, а на бягучы год ёсць аж чатыры ахвотныя. Трэба адзначыць, што вёска ідзе з духам часу. Конь становіцца ўжо перажыткам. Яго месца пачынаюць займаць трактары, якіх у вёсцы ўжо чатыры.

А цяпер скажам пра сады. Штуршок гэтаму дало ўзнікаючае прадпрымства перапрацоўкі фруктаў і агародніны ў Сямяцічах. І зрадзілася ў жыхароў Мілейчыцкай гміны думка аб садаводстве, паўстаюць нават калектывы. Да найбольшых трэба аднесці трохасабовы калектыў з Мілейчыц, які адвёў пад сад аж 7,8 га зямлі, і чатырохасабовы — з Харашчэва, які будзе засаджваць 6,98 га. Шмат ёсць і індывідуальных гаспадароў. Каб не траціць часу і месца на пералік, прывядзем агульную паверхню, што займуць сады. Раўняецца яна ні больш-ні менш, а 24,62 га. Пераважаюць яблыні і грушы. Але апрача таго, будуць і слівы, і маліны, і парэчкі. Так што праз пару год Мілейчыцкая гміна будзе ў новай вопратцы.

**М. Шаховіч**







*Bieży woda, bieży, a na*
*chciał się żenić młody J*
*chciał się żenić młody J*
*Nie pozwala matka i ca*
*— Nie jedź Jasiu, Jasiu*
*nie jedź Jasiu, Jasiuleń*
*Pojechał Jasieńko, za m*
*a Kasieńka młodziusień*
*a Kasieńka młodziusień*
*Jedzie Jasio, jedzie z pe*
*a Kasieńka leży w grob*
*a Kasieńka leży w grob*
*Nad Kasieńki głową oj*
*nad Jasieńkiem zdradniczeńkiem czarny woron gracze,*
*nad Jasieńkiem zdradniczeńkiem czarny woron gracze.*
*Nad Kasieńki główką organy zagrali,*
*nad Jasieńkiem zdradniczeńkiem wrony zakrakali,*
*nad Jasieńkiem zdradniczeńkiem wrony zakrakali.*

Ад Марыі Лубнеўскай, 1914 г. нараджэння, і Чаславы Катовіч, 1940 г. нараджэння, баярская вёска Ахрэмавічы гм. Заблудаў, запісаў у лістападзе 1975 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.




## ВАСІЛЬ АНТЫПЮК

Як усё-такі правільна і хораша складаецца жыццё! Выслужыў свае гады — і пайшоў на пенсію. Цяпер будуе ўласны двухпавярховы дом. Ідзе тут гутарка аб Васілю Антыпюку з Бельска. Стаім на яго палетку і гутарым аб яго жыцці-быцці.

Шаснаццацігадовым хлапчуком вывозяць яго немцы на прымусовыя работы. Цяжкая праца ў маёнтку, пасля ў шахце пад французскай граніцай. На другую зіму ён на нейкай будове непадалёку ад Кэнтшына, а летам у 1944 годзе пры капанні акопаў у раёне Сувалкаў і Віграў. Увесь час сутыкаецца з нялюдскімі адносінамі да зняволеных.

— У такія хвіліны чалавек траціў надзею, што перажыве, што вернецца дамоў. Калі вызваліла нас Савецкая Армія, радасць была такая, што немагчыма гэтага расказаць.

Васіль Антыпюк уступае ў рады Савецкай Арміі. Пасля кароткага абучэння пападае на перадавую лінію пад Кенігсбергам. Загінула там шмат такіх, як ён. І



яму смерць заглядала ў вочы. Але астаўся ў жывых. Вяртаецца ў сваю спаленую родную вёску Рыбакі, што непадалёку ад асады Нарва. На некалькі дзён перад ім вярнулася з прымусовых работ дзяўчына з гэтай жа вёскі — яго будучая жонка.

Пасля вайны ў Рыбаках, як і ў іншых вёсках, сяляне ўзяліся за адбудову сваіх гаспадарак. Вася памагаў бацькам будавацца і працаваць на гаспадарцы. Але не мог ён спакойна сядзець на вёсцы тады, калі ў краіне адбываліся вялікія падзеі. Прыбывае ён у Бельск. Тут прымаюць яго ў рады Саюза барацьбы маладых і даюць заданне арганізаваць гурток ЗВМ у Нарве. Праз нейкі час накіроўваюць яго на шасцітыднёвы курс у Элк, пасля якога абучаў ён у Нарве самаабароне і актыўна ўключаўся ў дзейнасць арганізацыі СБМ. У 1947 годзе прымаюць яго ў ППР. У гэтым жа годзе распачынае ён працу ў КБВ. Бярэ ўдзел у разгроме бандаў у Карпатах.

1949 год быў новай вехай у яго жыцці. Камандзіруюць Васіля Антыпюка ў Лодзь, у афіцэрскую школу, якую заканчвае ў 1950 годзе.

У кастрычніку 1950 года пачынае ён працаваць у міліцыі ў Граеве, і зноў даводзіцца яму выязджаць на банды. Наступіў урэшце ўсюды спакой. У 1959 годзе ён як афіцэр міліцыі пераязджае на працу ў горад Бельск, у якім раней атрымаў „пуцёўку" ў грамадскую працу. У 1973 годзе ён — камендант міліцыі ў горадзе Бельску.

У вольны час любіў узяць гармонік, зайграць ад душы і заспяваць. І гэтая любоў да песні прывяла яго ў беларускі харавы калектыў „Васілёчкі". Члены калектыву выбралі яго старшынёю рады хору, якая шмат увагі ўдзяляе арганізацыйным справам.

У 1969 годзе разам з іншымі дзеячамі БГКТ Васіль Антыпюк атрымоўвае высокую дзяржаўную ўзнагароду — Залаты Крыж Заслугі.

Васіль Антыпюк вялікую ролю адыгрывае і ў другой галіне грамадскай дзейнасці. Быў ён старшынёй бацькоўскага камітэта ў беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску і надалей з'яўляецца старшынёй бацькоўскага камітэта ў пачатковай школе. А калі працуе належна бацькоўскі камітэт, для школы — вялікая справа. У БГКТ Васіль Антыпюк таксама адыгрывае вялікую ролю. Ён член Галоўнай рэвізійнай камісіі. Жонка Васіля Антыпюка — таксама вядомы дзеяч. Яна член Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.

Згодная сям'я Антыпюкоў можа быць прыкладам для іншых.

**М. Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 3)




сказаць чытачу, што даклады мелі канчаткова прадуманыя і канкрэтныя загалоўкі. Не было ў іх месца, ні ў адным, на „некалькі заўваг".

Аўтар рэплікі піша: „Мог Цялушэцкі здзівіцца: ці заўвагі лічыць дакладам? Вядома, не". Пытаю: чаму не?

Падчас сесіі даклад С. Яновіча востра і без пардону скрытыкаваў др У. Юзвюк, які галоўным чынам закінуў аўтару суб'ектыўны погляд і недастатковую распрацоўку тэмы. Да таго ў сваёй рэпліцы жаласна прызнаецца С. Яновіч: „Маё выступленне было пабудавана з абгрунтаваных **роздумаў** на падставе дакументацыйных матэрыялаў БГКТ і **ўласных назіранняў** ягонай дзейнасці". Я ў сваёй інфармацыі для дабра С. Яновіча пра ўсё гэта змаўчаў. А С. Яновіч „пачаставаў" мяне, здаецца, не з вялікай для мяне ўдзячнасці, што, маўляў, я бестактоўны.

Але аўтару рэплікі, пэўна, карціць, каб яшчэ раз прызнаць перад усімі, у тым выпадку і нашымі чытачамі, сваю віну, хаця ніхто гэтага не патрабаваў. Не выканаў абавязку, значыць, не выканаў. Ну, і дастатковы быў бы выгавар, (што зрабіў, бо не мог сцярпець, сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Я. Зенюк; крытыкаваў ён тое, што ў дакладзе, яшчэ раз прыпамінаю, дакладзе, не было нічога аб культурна-асветнай дзейнасці, г.зн. аб адной з самых галоўных форм працы БГКТ, і што гэта невыбачальна).

Не пералічыў я прозвішчаў усіх прысутных на сесіі. Было многа асоб. У канцы канцоў, ці гэта так важна. Што забракла прозвішчаў Ю. Геніуша ці А. Бергман? Ды яны не дыскутавалі, а ставілі пытанні.

Дыскусія на сесіі ў асноўным канцэнтравалася вакол тэмы навучання беларускай мове. І гэта я напісаў. І на гэтым не закончыў. С. Яновіч павінен яшчэ раз заглянуць у 14 нумар „Нівы". Там жа знойдзе яшчэ, што выступалі сакратар і старшыня Галоўнага праўлення таварыства. Яны закранаалі зусім розныя тэмы. Але аўтар рэплікі, відаць, паспяшыў і не дачытаў маёй заметкі да канца. Што ж, бывае. Толькі калі ўжо збіраўся пісаць рэпліку, павінен быў гэта зрабіць. Навошта паказваць свой слабы бок, каб я мог упікнуць за гэта. І, на жаль, мяне гэта не цешыць. Бо гэта так наіўна.

Ад каго-каго, але ад літаратара можна вымагаць пэўнай агульнай (ці гэта так многа для С. Яновіча?) культуры, ды яшчэ і адказнасці за пісанае слова. Горш, калі верх бярэ зласлівасць, хваравітая. А ў гэтым напрамку вялікія схільнасці ў С. Яновіча. Адразу ў загалоўку рэплікі, над якой, па ўсяму відаць, доўга не задумваўся, „выязджае" з абражаючым аўтара заметкі словам „неахайнасць", а пасля яшчэ з іншымі правакацыйнымі словамі. Аўтару рэплікі прыдалося б быць больш тактоўным і памяркоўным. Мо ён так паводзіць сябе і на сваіх аўтарскіх сустрэчах? Тады, барані божа ад такіх сустрэч. Ведаю, і гэта не сакрэт, што С. Яновіч любіць быць папулярным. Але якім коштам?..

У заканчэнні стаўлю пытанне, што гэта мела быць у С. Яновіча: рэпліка ці спроба рэабілітацыі за няўдачны даклад? Калі спроба рэабілітацыі, дык навошта захацелася С. Яновічу толькі асмяшыцца?

**Янка Цялушэцкі**






*Капліца „Жураўлік" каля Адрынак.*
*Фота М. Гайдука.*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## За каменне — грошай жменя

Каменне ў ваколіцы гміны Бабікі і Шудзялава, проста сказаць, як заразы. На гэтых палях столькі было каменне, што гаспадары ламалі лемяшы, клялі, а каменне надалей завальвала поле. Але ўжо дзесяць год таму назад Раён эксплуатацыі публічных дарог у Саколцы зрабіў сваю базу пераробкі камення на шабар. Уставіў каменямолку (крушарку) і пачаў купляць каменне ў гаспадароў. Сталі людзі вазіць каменне з навакольных вёсак. Чысцяць поле і зарабляюць грошы, бо за кубаметр каменне плаціцца каля 200 злотых. А Раён эксплуатацыі публічных дарог стаў будаваць многа новых дарог. Пабудавалі з Крынак у Супрасль і многа іншых. Каменне з гэтай крушаркі едзе нават у іншыя ваяводствы.

**Віт**




### НАВОШТА?

*Навошта зіма,*
*ды руні пад снегам заснулі?*
*Няўжо нездарма,*
*каб сэрцам лепш весну пачулі?*

*Навошта нам зло,*
*Навошта бывае расстанне?*
*Няўжо памагло —*
*каб зноў пачалося каханне?*

*Не знаю чаму,*
*бы вочы гарэць перасталі...*
*На твары зіму*
*гадамі барозны праклалі...*

*Няўжо бы знарок,*
*каб новаму жыць ад світання?*
*Мінае дзянёк,*
*каб золаку даць прывітанне?*

*Навошта тады*
*так хутка вясна праміная?*
*Чаму маладыя*
*не можа квітнець, як жадае?*

*Ды як не кажы —*
*здаецца, бы шчасця за мала...*
*Навошта так жыць,*
*каб цешыць жыццё перастала?..*

**У. Шклярук**

### ПАСЛЯ ДОЎГАГА ПАДАРОЖЖА

Ішоў.
Спакойны летні вечар.
Першы раз прыглядаўся
прадметам у вітрыне.
Усё было вокам яго, і ён,
бы ў грамадзе прадметаў,
людзей, дамоў, вуліц.

Ішоў у дом.
Ціхая радасць выпаўняла
яго галаву, як цёплая імгла.
Быў ён раніцай разбуджаны,
з ціхай радасцю.

**Вечаслаў Яновіч**, Беласток

падначаленых рабаваць мірнае насельніцтва і падносіць яму, „бацьку“, падарункі, якія ён часцей за ўсё прапіваў. З дапамогай сваіх сяброў-сабутэльнікаў і брата Іосіфа Булак-Балаховічу ў кастрычніку 1918 года ўдалося схіліць на бок Юдзеніча эскадроны палка. Перабежчык заснаваўся ў Пскове, атрымаў званне палкоўніка, а праз месяц-два — і званне генерал-маёра.

Цяпер новаспечанаму генералу ніхто не перашкаджаў рабаваць і забіваць, п'янстваваць і дэбашырыць. Авантурыст і прайдзісвет палічыў сябе вялікім военачальнікам і дзяржаўным дзеячом... Ён выдаваў „уласныя“ законы, арганізаваў друкаванне фальшывых грошай. П'яны (а цвярозы ён рэдка бываў) Булак-Балаховіч падпісваў такія дакументы, якія выклікалі смех ва ўсім воінстве Юдзеніча. У дасье на Балаховіча Арлоўскі не без усмешкі прачытаў адзін такі „дакумент“. „Дадзена сіе палкоўніку Стаякіну, — гаварылася ў дакуменце, — што дазваляецца яму ўступіць у шлюб з Маланняй Прохаравай аж да вяртання яе мужа. Прычынай скасавання гэтага шлюбу можа быць таксама з'яўленне ў Пскове жонкі палкоўніка Стаякіна. Генерал-маёр Булак-Балаховіч“.

*(Працяг будзе)*

## Дашоўцы найлепшыя

На спартыўнай пляцоўцы пачатковай школы ў Палічнай быў разыграны чэмпіянат гміны Кляшчэлі пачатковых школ па футболу. Удзел прынялі каманды Палічнай, Сакоў, Кляшчэляў і Дашоў.

Розыгрышы праходзілі на высокім узроўні. Чэмпіянат заваявала каманда з Дашоў. Дашоўцы выйгралі з Кляшчэлямі 1:0 — гол Гаеўскага, і з Сакамі 2:1 — голы Гакарскага і Гаеўскага. Матч Палічнай закончыўся з лікам 1:1 — гол Маркевіча.

У Дашах — дружная і многаабяцаючая каманда. Яе асноўны склад: Сельвановіч, Рашчэнка, Гапанюк, Пюркоўскі, Леўчук, Жаркевіч, Гакарскі, Пшчола, Пікуцін, Гаеўскі, Скачко. Быць можа, з гэтых хлопцаў вырастуць новыя любанскія, ляты ці шармахі.

Каманду вядзе настаўнік фізкультуры Міхал Рачкевіч. **Марко**

## Ведае, што людзям трэба

Два гады таму ў Бандарах Міхал Грыка, закончыўшы механічны тэхнікум, рашыў адкрыць слёсарскі варштат. Некаторыя, больш дасціпныя, пасмейваліся: „Што ён тут на вёсцы будзе рабіць, што ён тут заробіць?“. Малады чалавек не пераняўся гэтым, толькі ўзяўся шпарка за работу. Маладога спецыяліста хутка пачалі завальваць работай. Даведаліся акалічныя гаспадары, ды не толькі яны, што яму можна даверыць кожную работу.

Раней трэба было ехаць у Міхалова або ў Гайнаўку, каб што-небудзь зрабіць, ці наладзіць. А цяпер на месцы. Да яго едуць цяпер людзі з Нарвы, Нараўкі, Масева, Ялоўкі, Баброўнік і Міхалова. Хваляць людзі салідную работу хлопца. Як відаць, можна жыць і на вёсцы — абы толькі з галавою.

**Кліент**

## Непарадкі на станцыі ПКС у Бельску

У Бельску кожны дзень ад самай раніцы з'язджаецца многа аўтобусаў ПКС. А вось з ад'ездам, дык цэлая бяда. А найгорш ад'ехаць ПКС-ам з бельскай станцыі. Кожнага аўтобуса ў Бельску чакае мноства людзей, не заўжды можна ўсіх і забраць. Таму кандуктары прапускаюць толькі тых, хто ўжо купіў на станцыі білеты, або з месячнымі. Але зноў купіць гэтыя білеты надта ж цяжка, бо на станцыі ПКС, якая змяшчаецца разам са станцыяй ПКП, білеты ПКС прадае толькі адна каса, перад якой заўсёды стаіць натоўп людзей. І нерваў трэба страціць тут нямала. Вось стаіш у чарзе і думаеш: не дачакаюся, а мо пакуль дайду да касы, то і аўтобус уцячэ...

А калі ўжо нават маеш білет, зноў няма ўпэўненасці, ці паедзеш. Бо ПКС нерэгулярна ездзіць, бо часта бывае і так, што на вызначаную гадзіну не прыедзе. Чакаеш тады другога. А другі зноў забірае тых пасажыраў, якія маюць білеты на яго гадзіну, а тых, што не паехалі ранейшым, не прымае. Вось табе й маеш, такі парадак!

Трэба было б зрабіць усё ж такі нейкі парадак з ПКС-амі, а таксама і з білетамі на станцыі ў Бельску.

**М. Матвеюк**

## ДЗЕ? ШТО? КАЛІ?

10.04.76 г. на дарозе Арэшкава-Пескі, што ў Гайнаўскай гміне, Аляксандр Г., які жыве ў Кляшчэлях, неасцярожна ехаўшы матацыклам, перакуліўся ў роў, у выніку чаго зламаў правую нагу. Параненага завезлі ў бальніцу.

11.04.76 г. а 12.45 гадзіне дня ў Беластоку непадалёку ад Фастаў матацыкліст Андрэй В. ў выніку неасцярожнай язды перакуліўся ў роў. Паранены Андрэй апынуўся ў бальніцы, а матацыкл згарэў.

10.04.76 г. а 15 гадзіне непадалёку ад Аўгустова, што ў Бельскай гміне, згарэла 2,015 га трохгадовага лесу. Страты панеслі 7 гаспадароў гэтай жа вёскі.

19.04.76 г. ў вёсцы Бялевічы, гміна Гарадок, Іван В., які ехаў матаролерам, перакуліўся. Цяжка параненага завезлі ў бальніцу.

17.04.76 г. Іван С., гаспадар з вёскі Крывая, што ў гміне Орля, выпаляў сухую траву і з-за гэтага спаліў 1 га сасновага лесу на страту праваслаўнай парафіі ў Шчытах.

## У Белавежы

Даволі добра распачаўся гэты год у белавежскім турызме. У першым квартале налічана ў Белавежы каля 14 тысяч экскурсантаў, г. зн. на 3 тыс. больш, чым у аналагічным перыядзе мінулага года. Найбольшы рух, дзякуючы зімовым канікулам, быў ад паловы студзеня да канца другой дэкады лютага. Не падвяла таксама пагода. Было многа снегу. Для прыезджых турысцкае бюро ПТТК арганізоўвала экскурсіі на санках, спалучаныя з пячэннем каўбасак пры лясным кастры ва ўрочышчы Старая Белавежа. Моладзь магла катацца на лыжах, каньках, санках. Палацовы ўзгорак ад світу да ночы гучаў сотнямі галасоў.

„Раззлаваліся“ на Белавежу толькі замежныя турысты. Калі ў першым квартале 1975 г. прыехала іх сюды звыш 350 чалавек з 28 дзяржаў, то ў першым квартале 1976 г. — усяго каля 200 асоб з 14 дзяржаў. Цяжка прадбачыць, ці гэтае змяншэнне працягнецца ў далейшых месяцах — пачатак настройвае песімістычна. Як заўжды, найбольш ехалі немцы, англічане, французы, рускія і амерыканцы.

Ідзе апошняя падрыхтоўка да прыёму турыстаў у белавежскіх гасцініцах і рэстаранах. Адноўлены, упарадкаваны яны. ПТТК паставіла інфармацыйныя дошкі.

Турысцкі сезон пачнецца ў першай дэкадзе мая. Толькі, каб пагода не падвяла. Аб яго ходзе будзем інфармаваць сістэматычна.

**П. Байко**

## Дзіўная крама

На вуліцы Вызвалення № 22 ў Гайнаўцы знаходзіцца крама. Дзіўная гэта крама. Можа не столькі сама крама, колькі яе прадаўшчыца. Абвестка ў дзвярах інфармуе, што крама павінна адкрывацца а 6 гадзіне раніцы. Павінна! Тым часам невядома па якой прычыне прадаўшчыца адкрывае яе а паўсёмай, а то і пазней. У выніку гэтага амаль штодзень пад крамай стаіць раніцай чарга чакаючых несур'ёзнага працаўніка.

Пара звярнуць увагу аддзелу ВСС у Гайнаўцы, што пунктуальнасць датычыцца нас усіх.

**Сядзем**

### АЖЫЛА ДЗЕЙНАСЦЬ ФАН У ШУДЗЯЛАВЕ

У сакавіку г.г. наступіла рэарганізацыя гміннага камітэта ФАН у Шудзялаве. Старшынёй выбралі Міхася Альховіка з Шудзялава — актыўнага члена ЗСЛ, ужо ён на пенсіі, затое, больш мае цяпер часу на грамадскую працу ў ФАН. На першым сходзе быў апрацаваны план працы на 1976 год.

**Віт**




**Кастусь Маркевіч, Дашы.** Прапановы адкрыць куткі цікавых дат і фатаграфічны спадабаліся нам. З першым справа простая, з другім — усё залежыць ад чытачоў (ці будуць дасылаць фатаграфіі). Паспрабуем увесці. Галаваломкі ўвядзем, калі забяспечымся адпаведным матэрыялам. Адносна рубрыкі „Беластоцкія вёскі“, дык у нас жа ёсць „Краязнаўчы слоўнік“.

**Э. Вайсковіч, Гайнаўка.** Аб вашай справе мы паведамілі ў Ваяводскую экспедыцыю прэсы ў Беластоку.

**Я. Стэпанюк, Нараў.** Вашай справай мы зацікавімся, але прыйдзецца вам крыху пачакаць.

**В. Б., Гайнаўка.** У будучыні адной і той самай інфармацыі (у тым выпадку аб збіранні сухога хлеба) не высылайце ў дзве рэдакцыі. Мы чыталі яе ў іншай газеце і не будзем друкаваць.

**Васіль Плева, вёска Ляды (гміна Чыжы).** Ваша пісьмо мы атрымалі, дзякуем.

**Рыгор Хворась, солтыс вёскі Збуч (гміна Чыжы).** Вашай справай мы зацікавіліся. Усё апісанае праверылі на месцы.

**Жыхар вёскі Луплянка (гміна Шымкі).** Выпісаць „Ніву“ вы можаце і на пошце. Туды вы і звярніцеся.

**Начальнік паштовых устаноў у Чыжах і Старым Корніне.** Найлепшым прапагандыстам „Нівы“ мы прызналі ўзнагароды. Аб іх мы пісалі ў мінулым нумары.

**Абое старыя: муж Е. (75 год) і жонка Ф. (76 год).** Падайце свае прозвішчы і адрас, тады вам адкажам. (ця)

## Курсы і экзамены

У Дубічах Царкоўных 20 удзельнікаў курсу па сельскай гаспадарцы, прыступілі да экзаменаў і паспяхова яго здалі. Кожны атрымаў дакумент. Многія намераны не спыняць вучобу, а далей вучыцца ў сельскагаспадарчым тэхнікуме — завочна.

На гэты курс хадзілі маладыя людзі з вёсак: Дубічы Царкоўныя, Грабавец, Тафілаўцы, а больш палавіны ўдзельнікаў складалі жанчыны. Курс вяла працаўнік сельскагаспадарчай службы гміны Дубічы Царкоўныя Раіса Старасельнік. Варта яшчэ напомніць, што ў Дубічах Царкоўных праводзіцца таксама вечаровая студыя па сельскай гаспадарцы.

*

У Дубічах Царкоўных закончыўся курс грамадска-палітычных ведаў. Хадзілі на яго пераважна маладыя жанчыны і яны атрымалі адпаведныя пасведчанні. Гэта яшчэ адзін доказ, што нашы жанчыны ўсё больш цікавяцца палітыкай.

**М. Панфілюк**

### РАЗВІТАННЕ ПЕНСІЯНЕРАЎ

У чыгуначнай Чаромсе ёсць добры звычай — развітвацца з працаўнікамі, якія адыходзяць на пенсію.

Мне прыйшлося пабываць у апошні час на такой сустрэчы, калі на пенсію адыходзіла Антаніна Багач — працаўніца станцыі Чаромха. Антаніна Багач у часе сваёй працы на ПКП карысталася вялікай пашанай сярод калег, як член партыі ўдзельнічала ў грамадскай працы. Была ўзнагароджана значком „Перадавы чыгуначнік“. На развітанне яе сышлося многа асоб. Прысутнічалі начальнік станцыі і яго намеснікі, старшыня прафсаюза чыгуначнікаў. Панавала цёплая і сардэчная атмасфера, доўга не змаўкалі песні.

**Ул. Сідарук**

### ПЕДАГАГІЧНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

Адным з важнейшых спосабаў павышэння ведаў працуючых настаўнікаў з'яўляюцца педагагічныя канферэнцыі, якія арганізуе Саюз польскіх настаўнікаў. Настаўнікі групы сельскагаспадарчых школ у Бельску праводзяць іх сумесна з настаўнікамі Медыцынскага ліцэя. У гэтым школьным годзе адбылося ўжо шэсць такіх канферэнцый. На іх абмяркоўваліся важныя для настаўнікаў праблемы: будаўніцтва развітага сацыялістычнага грамадства, уплыў індывідуальнасці настаўніка на індывідуальнасць вучня, культура сумеснага жыцця ў настаўніцкіх групах і г.д.

Заняткі праводзяцца семінарыйным метадам. Добра было б калі-некалі ў рамах заняткаў паглядзець і фільм, і дыяпазітывы, паслухаць радыё ці паглядзець тэлеперадачу. Добра было б таксама паехаць часам у іншыя школы ці ў цікавейшыя гістарычныя месцы.

**Мікалай Няплоха**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ПРА ЗУБАЎСКІЯ РАВЫ

Вось адказ аддзела сельскагаспадарчых інвестыцый Ваяводскага ўпраўлення ў Бельску Падляшскім на нашу публікацыю „Людскія грошы плывуць, а вада не хоча“. Была гутарка аб тым, што меліярацыйныя равы ў вёсцы Зубава не дагледжаны. Аўтар пісаў, што калі гаспадары самі чысцілі равы, было лепш. Чыя ж тут праўда — разбярыцеся самі.

W odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Pieniądze ludzi płyną, a woda nie chce” z dnia 24.I.76 r., Wojewódzki Zarząd Inwestycji Rolniczych Oddział w Bielsku Podlaskim po sprawdzeniu w terenie wyjaśnia, że rowy w ubiegłym roku były przekonserwowane przez obkoszenie skarp i usunięcie kożucha roślin pływających, co zapewniło odpływ wody.

Konserwacja rowów przez odmulenie jest zaplanowana do wykonania w r.b.

Jednocześnie tut. Oddział wyjaśnia, że czyszczenie rowów przez rolników było wykonywane, lecz nie zdało egzaminu, ponieważ każdy użytkownik czyścił w różnych terminach, a niektórzy w ogóle nie czyścili, co rzeczywiście utrudniło odpływ wody.

W związku z tym zaszła konieczność powołania spółki wodnej i wykonanie konserwacji urządzeń melioracyjnych sposobem zorganizowanym pod nadzorem służby melioracyjnej.

Kierownik
inż. Jan Iwaniuk

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

